# ЗОРКІ

## БЕЛАРУСКІ ДЗІЦЯЧЫ ЖУРНАЛ



№ 1 ГОД ВЫД. 1

МЕНСК, 25 ЛЮТАГА 1921 г.

Год выд. 1. 25 лютага 1921 г. № 1.

# ЗОРКІ

Беларускі дзіцячы журнал выходзіць што-месяц у Менску.

Выдавецтва Камісарыяту Народнае Асьветы Беларусі.



## У ШКОЛУ!..

Клумак з кніжкамі пад пахай,
Думак поўна галава,—
Там, у школу даўным шляхам
Сыпе сельская дзятва.

Гурмам сыпе да навукі,—
Знаць ахвоту, ўвагу знаць:
Знамо, трэба знаньня штукі
Сходаць, скеміць, пераняць.

Буквы з памяці той клеце,
Той «таблічку» ў нос бурчыць;
Адным словам, яшчэ дзеці,
Адным словам, трэба ўчыць!

*Янка Купала.*



## ЧЫРВОНАЯ КУРАЧКА.

Хадзіла чырвоная курачка па дзядзінцу й вадзіла за сабою сваіх куранятак. Знайшла яна пшанічнае зернятка.

— Хто пасадзіць зернятка?—спыталася яна.

— Ня я!—сказала гуска.

— Ня я!—сказала качачка.

— Дык я яго пасаджу!—адказала курачка й пасадзіла.

Як пшаніца высьпела, курачка спыталася:

— Хто павязе зернятка ў млын?

— Ня я!—сказала гуска.

— Ня я!—сказала качачка.
— Дык я павязу!—сказала курачка й павезла.
Прывезла курачка з млыну муку й спыталася:
— Хто спячэ хлеб з гэтай мукі?
— Ня я!—сказала гуска.
— Ня я!—сказала качачка.
— Дык я сьпяку!—сказала курачка й сьпякла хлеб.
Як хлеб быў гатовы, дык курачка зноў спыталася:
— А хто будзе гэты хлеб есьці?
— Я!—сказала гуска.
— I я!—сказала качачка.
Але курачка ім адказала:
— Не, бо я вам, гультайкам, ня дам. Я сама зьем!
I паклікала сваіх дзетак на падмогу.

---

## К ДЗЕТКАМ...

Вучыцеся, дзеткі, дужэйце на волі,
Каб скарбы навукі знайсьці,
Каб лепш было з жыцьцем змагацца за долю
На роднай і мілай зямлі;
Бо цяжка, ой, цяжка змагацца тым людзям,
Хто ў вечнай цямноце жыве:
Ня бачыць ён сьвету і бачыць ня будзе,
Бо сьвет той навука дае...

*Раманоўскі Мікола*
К. Ч.

6/1—1921 г./м. Менск.

---

## ПАНСКАЯ ХВАРОБА.

Захварэла качачка Цацачка. Ня есьць, ня п'ець, нікуды ня выходзіць. Толькі ляжыць на пуховых падушачках у шоўку, ў золаце і цэлымі днямі стогнам—стогнець: „Ой—Ой!“

Што ей рабіць ды што ей рабіць?

Лячылася за морам—не памагло, ды яшчэ горай прылягло: пасыцела, растаўсьцела, як агурочак, як камочак, ажна стагнаць ей трудна.

А вакол яе мамачкі-нянячкі, злючкі-чарнаручкі тупаюцца-грукаюцца, сьлёзы праліваюць, цяжка ўздыхаюць:

«Панічка качачка-Цацачка паміраець».

Паклікалі да яе старэнькую знахарачку, мышачку-Барбарачку.

Мамачкі нянячкі, злючкі-чарнаручкі паваліліся воб землю й давай старую знахарачку, мышачку-Барбарачку, маліць-прасіць:

«Вылечы нашу панячку, качачку-Цацачку і за гэта возьмеш поў маёнтачку, пяць кароў, пяць валоў, тройку коней і жмут грошаў».

Паглядзела на качачку-Цацачку знахарачка-Барбарачка, заламала рукі, заплакала-загаласіла й сказала:

«Я гэтачкай хваробы яшчэ ніколі ў жыцьці сваім ня бачыла. Тут толькі паможа котка-Цнотка».

Паклікалі да пані котку-Цнотку. Нагаварылі ей абяцаначкі-цацаначкі, каб толькі вылячыла качачку-Цацачку.

Адмовілася котка Цнотка й параіла паклікаць курачку-Дурачку.

—Памрэ качачка-Цацачка,—залямэнтавала курачка-Дурачка,—калі не паклічаце на паратуначак майго мужычка, пятушка Янку-Балабанку: толькі ён адзін дасьць раданьку. Ен не калечыць, а добра лечыць.

Пазвалі мужычка-пятушка, Янку-Балабанку.

Прыйшоў ён з форсам, з ганорам, з локатам-покатам.

—Ку-ка-рэ-ку, пані! Я вылечу васпаню!

Зьняў з сябе Янка Балабанка дзягу-падпярэзіну і давай лупцаваць, і давай лячыць, і давай гаварыць да качачкі-Цацачкі:

—Уставай, гультайка-талатайка, а то да сьмерці прыб'ю!

Лёганька ўскочыла качачка-Цацачка на ногі з пуховых падушачак і пусьцілася на ўцекі, а Янка-Балабанка за ёю. Пагнаў яе на поле й загадаў жыта жаць.

Жала дзень, жала два й тры ад зары да зары. Сьпіна балела, рука млела, а пальцы ў мазалёх—ох, ох!

Карміў Янка-Балабанка качачку-Цацачку не пірагамі, а чорным хлебам ды яшчэ з мякінаю.

Адвыкла качачка-Цацачка стагнаць, навучылася працаваць, зрабілася жвlivaнькай, рухаванькай і выздаравела.

*З. Бядуля.*

## БАЮ, БАЮ БАЕЧКУ.

Баю, баю баечку,
Граю, граю граечку.
Раз пайшоў я з хатанькі
На лужочак з матанькай.
Там ля сьветлай рэчанькі,
Шумнай быстрацечанькі
Выразаў я дудачку,
Ґулкую пагудачку.
І зайграў я граечку,
Траля- траляляечку.
Рэхі пакаціліся.
Птушкі задзівіліся.
Рэчка калыхалася,
Небанька сьмяялася.
І ляцелі пчолачкі
На маю сьвісьцёлачку.
Пачалі шаптушачкі
Камарочкі, мушачкі,
Матылёчкі белыя,
Каласочкі сьпелыя,
Акунькі і плотачкі,
Яваркі блазнотачкі.
Песьні пераліўныя,
Трэлі—дзівы-дзіўныя
Радавалі гонейка,
Залатое сонейка.
Лёгка байкі баюцца,
Лёгка грайкі граюцца
Каля роднай матанькі,
Каля роднай хатанькі.

*Ясакар.*

## ГУЗІК.

Ужо над змрокам з стукатам грукатам адчыніліся дзьверы і ў хату весела ўляцелі, як два галубкі, Сымонка й Волька. Ад марозу шчочкі іх нісчырванелі, як макі й адзін перад другім наперабой дзеці пачалі выкладаць матцы што было ў іхней школе за гэты дзень.

— Волька, не перабівай мяне!—крычаў Сымонка,—дай перш я скажу, а потым ты.

Але Волька ня стрымалася і, весела рагочачы, гаварыла матцы, як сёньня настаўнік зазлаваўся на Сымонку.

— І ведаеце, мамка, Сымонка гэтак плакаў, што ня можна было вытрымаць з жалю: ад сьлёз на твары парабіліся нават рагі, вось, паглядзеце, яшчэ прыкметны.

— Годзе табе, а ты, Сымонка, не зьвяртай увагі, ўсяк бывае; але-ж за што-якое на цябе настаўнік зазлаваўся?

— Я й сам ня ведаю за што,—адказаў Сымонка, надуўшы губкі і са сьлязьмі на вачох.

— Як-жа так можа быць, каб цябе каралі, а ты ня ведаў за што?

— Бо й няведаю... Ен казаў, што дае мне на памятку, каб не забываўся...

— Мамка, мамка! Вось у чым справа,—перабіла зноў Волька:—настаўнік казаў Сымону два дні запар, каб ён прышыў «пуговицу в воротник», а Сымонка не зразумеў гэтага й ня спытаўся ў настаўніка, што гэта значыць, а кожны раз яму адказваў: «добра, прышыю», а што к чаму прышыць, ён ня ўцяміў, ну, дык вось сёньнейка, як убачыў настаўнік, што «пуговицы в воротнике» йзноў няма, дык гэдак раззлаваўся.

— Чаму-ж ты, дурненькі, ня спытаўся ў настаўніка, або ў мяне, калі сам ня ведаў; гэта-ж ён табе казаў прышыць гузік у каўнер, бо ты, мусіць, дужаючыся, вырваў яго. Чаму ты ня спытаўся ў настаўніка?

— Ня спытаўся... як-жа пытацца, калі гэта сорам.. Хай бы ён і сказаў: прышый гузік у каўнер, а то выдумаў нейкую „пуговицу й воротник“ й яшчэ бецца за гэта,—крыўдзіўся Сымонка.

— Вы, дзеткі мае, прасіце настаўніка, каб ён з вамі на роднай мове гаварыў, тады вы ўсё зразумееце,—сказала матка дзецям.

*Раманоўскі Мікола.*

## За зоркамі.

За зоркамі яснымі, дзеці,
Ідзіце вы к шчасьцю і долі,
Хоць цемра пануе на сьвеце,
Ня згубіце сьцежкі ніколі.

Вядуць яны к знаньню, к навуцы,
К праўдзе і волі народу...
Грамадай за імі ўсе мкнуцца
У край, дзе братэрства і згода.

Гады ўсё лятуць за гадамі,
А зоркі мітусяцца ясна...
Пакуль гараць зоркі над намі,
Надзея у сэрцы ня згасьне.

За зоркамі йдзе хто—ня згіне,
Бо сьцежку асьвецяць да конца,
А ночы цямнота як міне,
Засьвеціць нам раніцы сонца!

*М. Чарот.*

---

## Песьня і казка.

*Для Налі С.*

Песьня і казка
Ходзяць у пары,
Сеюць па сьвеце
Дзівы і чары.

Будзяць з прассоньня
Думкі дзіцячы,
Як той у раньні
Промень сьвяцячы.

Песьня і казка,
Як у крышталі,
Сьвету пакаж
Тайныя далі

Шляхі намецяць
К сонцу і зорам
Для людзскай долі,
Скованай горам.

Песьня і казка
У райскіх праявах
Шчасьце збудуюць
З кветак іскравых.

Сэрца атуляць
Вечнаю ласкай...
Слухай-жа, сэрца,
Песьняў і казкаў.

*Янка Купала.*

---

## СЬНЕЖНЫ ДЗЕД.

— А ведаеш што, Жучка-Злючка,—казаў малы Сымонка да свайго адзінага таварыша, сабачцы,—ідзём у лес сьнежнага дзеда ляпіць.

— Гр-р-р!—узрадаваўся Жучка-Злючка,—чаму не, ідзём!—і радасна сабака завіляў хвастом.

Выляпіў Сымонка дзеда з сьнегу. Замест воч—яловыя шышкі ўсадзіў яму ў твар пад лабаціну й замест барады—яловую лапку ўткнуў. Даў яму кій у рукі, й дзед выйшаў на славу.

Стаяў дзед паміж хвояк на пагорачку, як асэсар, і ўсьміхаўся ў вус, пазіраючы на Сымонку і Жучку, якія скакалі вакол яго радыя і давольныя.

Абмацаў дзеда Сымонка з усіх бакоў—добра!

Абнюхаў дзеда Сабака з галавы да ног—лепей ня трэба!

Міргнуў Сымонка да Жучкі, Жучка да Сымонкі і разам зарагаталі.

— Гі-га-го!—пасыпаліся ім у адказ рогаты з усіх глухіх куткоў сівога лесу.

Зарагатаў і сьнежны дзед. Жучка і Сымонка ня зьдзівіліся: калі дзед, дык чаму яму не рагатаць? А дзед так моцна рагатаў, ажна яго вочы, яловые шышкі, блішчэлі, як вугольлі, а барада, яловая лапка, траслася.

Дзед нават загаварыў-бы, але рот яму Сымонка зрабіў няўдалы: крывы і разяўлены. Калі-б гэтак, як дзед, разьзявіўся Сымонка, дык гак-сама ня мог-бы гаварыць. А калі-б сабака так рьзьзявіўся-б, дык і гаўкаць не патрапіў-бы.

Гульні-забавы ў лесе адбываліся штодня. Гуляла ўся тройка— дзед сьнежны, Жучка і Сымонка. Дзед паважна камандаваў імі, стоячы на адным мейсцы, а хлопец з сабачкай бегалі вакол.

То Сымонка гнаўся за Жўчкам, то Жўчка за Сымонкам, то яны разам качаліся па сьнягу і рабілі гэткі гармідар, ажна ўвесь лес зьвінеў, як жывы, і гулка трос ад дзіва сваімі вяршалінамі.

Прыскочыў зайчык-Грайчык на шум.

— Вазьміце мяне ў кампанію!—прасіўся ён у дзеда, Жучкі і Сымона.

— Рабі ласку, сям'я павялічыцца.

Прыляцелі дзятлы-кавалі на шум.

— Вазьміце нас у кампанію!

— Рабіце ласку, сям'я павялічыцца.

Прыляцелі сарокі-вароны на шум.

— Вазьміце нас у кампанію!

— Рабіце ласку, сям'я павялічыцца.

Наведалася лісічка-сястрычка на шум.

— Вазьміце мяне у кампанію!

— Рабі ласку, сям'я павялічыцца.

Прываліў ваўчок-кумок на шум.

— Вазьміце мяне у кампанію!

— Рабі ласку, сям'я павялічыцца.

Прывалокся вядзьмедзь-крывалапы на шум.

— Вазьміце мяне ў кампанію!

— Рабі ласку, сям'я павялічыцца.

І праўда, сям'я зрабілася вялікая.

Цешыўся сьнежны дзед сваёй сям'ёй і нацешыцца ня мог. Блішчэў ён пад сонцам у розных колерах, нібы ў дарагіх вопратках, шытых залатымі ніткамі.

Весела было ў лесе.

— Гі-га-га!—сьмеяўся Сымонка.

— Гаў-гаў-гаў!—радаваўся Жучка.

— Тук-тук-тук!—скакаў зайчык.

— Стук-стук-стук!—цешыліся дзятлы.

— Кра-кра-кра! —весяліліся сарокі-вароны.

— Ха-ха-ха!—рагатала лісічка.

— Во-во-во!—тупаўся ваўчок.

— Гу-гу гу!—равеў вядзьмедзь.

Раптам шура-бура паднялася ва ўсім лесе. Застагналі-закрахталі дрэвы векавыя, паднялася мяцеліца, і вялікая сям'я, хто куды, разляцелася.

Паляцелі да хаты і Сымонка з Жучкам.

Назаўтрае раненька Жучка ўзбудзіў Сымонку.

— Уставай! Ідзём у лес да дзеда!

Усхапіўся Сымонка, глянуў у ваконца—адліга. З стрэхаў капае. Каля хаты лужыны стаяць.

Пабег ён з сабакам у лес да дзеда. Адзін-адзінюткі стаіць дзед і плача. Сьлёзы так і капаюць з воч сьляпых, бо шышкі выпалі. Адпала барада й кійываліўся з рук. Ад дзеда астаўся адзін ледзяны шкілет. Гэткага няшчасьця дзед ніколі не спадзяваўся у сваім жыцьці.

Ліў дзед сьлёзы ў тры ручаі, а Сымонка яго цешыў.

— Ціха, ня плач, дзядок! Як настане мароз. як выпадзе новы сьнег, дык мы цябе вылечым, падробім. Мы з Жучкам вялікія майстры й яшчэ ня гэткія штукі ўмеем рабіць!.

*З. Бядуля.*

---

## ДЗЕД МАРОЗ.

Гэй—гэй! Стук--стук!
Едзе—едзе дзед-Мароз.
Дзын—дзын! Грук—грук!
Вецер дзеда схоп, панёс.

* * *

Но—но! Сып—сып!
Уецца веяй шустры конь.
Бразь—бразь! Скрып—скрып!
Конь гарачы, як агонь.

* * *

Лес, лес... Сьнег, сьнег...
Гэй, да хаткі на гару!
Гі-га—сьмех, сьмех:
Дзеткі граюць. Конік, тпру!

* * *

Конь, конь, стой, стой!
Гэй, здароў, дзядок Мароз!
„Ай-ой, ой-ой!
Дзед гасьцінцікі прывёз“.

* * *

Шоўк—шоўк, мёд—мёд,
Цацкі, булкі і праснак.
Скік—скок, ход—ход,
Дзеткі скачуць гэтак-так.

* * *

„К нам, к нам, дзед, дзед!“
Зноў паехаў... Гулкі звон.
Знак—знак, сьлед—сьлед
На вакне пакінуў ён.

* * *

Лёд—лёд, бель—бель,
Кветкі ружы—любата.
Мак—мак, хмель—хмель,
Дыямэнты—пекната.

*Ясакар.*

---

## ВУЧЫСЯ.

Вучыся, нябожа, вучэньне паможа
Змагацца з нядоляй, з няволяй...
Што муча сягоньня, што думкі трывожа,—
Зьбяжыць і ня прыдзе ніколі.
Жаль згіне, як мара; ня будзеш няздарай,
Нідзе і ні ў чым не заблудзіш;
Ты праўду ў няпраўдзе, як сонца між хмараў,
Спазнаеш, раз цёмен ня будзеш.
Такая прынука, як праца й навука
Ці-ж можа нам сіл не дадаці?
З такімі сябрамі, знай, будзе ня штука
І гора сваё зваяваці.
Паўнейшай адрынка, сыцейшай скацінка,
Ой, будзе—а толькі вазьміся!..
І знойдзецца ў працы аддухі часінка,
І ў крыўду ўрагом не дасіся.
Крыўдзіцеляў зможаш, сьлед вечны праложыш
І к долі, і к волі, і к славе...
Адно ты прачніся, вучыся, як можаш,
Ці дома, ці ў школе на лаве.

*Янка Купала.*

# Народныя казкі.

## Каток, пеўнік і лісічка.

Быў сабе каток з пеўнічкам. Зрабілі яны сабе хатку ды сталі жыць. Каток накарміў пеўнічка, а сам пашоў на ўловы.

У той час прышла лісічка пад дзьверы хаткі й сказала:

— Пеўнічку, пеўнічку! Адчыні мне!

Пеўнічак адчыніў, а лісічка ўвайшла ў хатку, ўхапіла пеўнічка ды панесла да свае хаткі. А пеўнічак стаў крычаць:

Коце, браце!
Мяне ліска нясе
У высокія горы,
У глыбокія норы
Па бары, па каменьні
Па ўсялякім зельлі.

Каток пачуў, прыбег, пеўнічка адабраў, прывёў да хаткі ды сказаў яму:

— Глядзі-ж, ня слухай лісічкі, ня пушчай яе, бо я пайду далёка.

Коцік пашоў, а лісічка зноў прыбегла ды кажа:

— Пеўніку, галубочку, адчыні мне! Я толькі агню вазьму!

— Не адчыню, бо ты мяне ўхопіш!

— Ня бойся, ня буду чапаць!

Пеўнічак адчыніў, а лісічка ўхапіла яго ды панесла да свае хаткі. Пеўнічак зноў стаў крычаць:

Коце, браце!
Мяне ліска нясе
У высокія горы,
У глыбокія норы
Па бары, па каменьні,
Па ўсялякім зельлі.

Каток пачуў, прыбег, пеўнічка адабраў, набіў, набіў яго, прынёс да хаты й сказаў:

— Ну, глядзі-ж, ня пушчай яе ў хатку, бо я пайду яшчэ далей.

Коцік пашоў, а лісічка прыбегла ды зноў кажа:

— Пеўнічку, галубочку, падай мне агню!

— Не падам, бо ты мяне ўхопіш!

— Ня бойся! Ну, падай хоць праз дзірачку!

Пеўнічак падаў, а лісічка—хап! І панесла пеўнічка да свае хаткі.

Пеўнічак крычаў, крычаў, але коцік не пачуў. Лісічка ўнесла пеўнічка ў сваю хатку, ды сказала дочкам:

— Наварэце есьці частаваць госьця.

Тымчасам вярнуўся коцік дадому, але не застаў у хаце пеўнічка. Тады ён зрабіў сабе скрыпачку ды зьвіў пужку. Пасьля пашоў, сеў над лісічай норкай ды стаў граць:

А ў ліскі,
А ў ліскі
Новы двор.
Тры дачкі,
Тры дачкі,
На выбор.
Чацьвёрты пеўнічак-
То-та мой!

А дочкі лісіцы, пачуўшы гэта, сказалі:

— Ах, мамка, як нехта хораша грае! Пойдзем, паглядзім!

Дочкі выйшлі глядзець, а коцік іх пужкаю забіў, каля норы палажыў ды зноў грае:

А ў ліскі,
А ў ліскі
Новы двор.
Адна лісіца,
Адна лісіца
На выбор.
Чацьвёрты пеўнічак
То-та мой!

А старая лісіца кажа:

— Ну, нешта-ж доўга няйдуць есьці! Пайду я толькі ды іх прыганю!

Узяла дубца, вышла, а каток і яе пужкаю забіў. Пасьля ўвайшоў у хатку да пеўнічка ды сталі жыць у двох у лісічай хатцы.

## Як малы каток вялікіх зьвяроў напалохаў.

Бяжыць сабе лісічка па лесе. Сустрачае катка. Лісічка й пытае ў яго:

— Ці ня будзеш ты ў мяне, каток, за гаспадара?

— А чаму-ж не?—адказвае каток:—буду!

Вось яны ўвайшлі ў хатку лісіцы ды сталі там жыць. Ажно бяжыць туды мядзьведзь. Лісіца яму й кажа:

— А ты куды бяжыш, кацалапы? У мяне ўжо ёсьць гаспадар!

Мядзьведзь спалохаўся ды ўцёк. Бяжыць воўк. Лісічка да яго:

— А ты куды, лупаты? У мяне ўжо ёсьць гаспадар!

Воўк спалохаўся ды ўцёк. Бяжыць дзік.

— А ты куды зубаты? У мяне ўжо ёсьць гаспадар!

І дзік уцёк. Бяжыць заяц.

— А ты куды, касавокі? У мяне ўжо ёсьць гаспадар!

І заяц кінуўся наўцекі.

Пазьбіраліся яны ўсе ды давай раіцца, як-бы ім паглядзець, які ў лісіцы гаспадар. Прыходзяць яны да лісічкі ды пытаюць:

— Ці ня можна нам пабачыць твайго гаспадара?

— А чаму-ж не? Прынясеце толькі мёду ды мяса. а самі схавайцеся, бо ён вельмі дужы.

Вось яны дасталі мёду й мяса, прынесьлі да лісічкі, а самі схаваліся. Мядзьведзь узьлез на дуб, воўк сеў пад дубам, дзік зарыўся ў лісьце. заяц—пад хвораст.

Прыбег кот, стаў есьці мяса ды вурчыць:

— Мяў, мяў! Мяў, мяў!

А мядзьведзь, пачуўшы гэта, кажа паціху да воўка:

— Бачыш? Сам гэткі маленькі, а гэтак многа есьць ды яшчэ крычыць: мала, мала!

Пачуў гэта дзік і захацеў паглядзець. Падняў ён галаву, а муха яму села на вуха. Дзік патрос вухам, каб яе сагнаць, а кату здалося, што гэта мыш—ды як скоча на дзіка. Дзік усхапіўся ды ходу. А кот, гэтак сама спалохаўшыся, кінуўся ўцякаць на дуб. Мядзьведзь угледзіўшы, што кот лезе на дрэва, на каторым ён сядзіць, зароў:

— Ой! Ен на мяне лезе!

Ды са страху—бух воб зямлю! Ды як раз папаў на ваўка.

Ледзь жывыя са страху й болю кінуліся яны наўцекі. А заяц, пабачыўшы гэта, так-сама даў драла, аж ногі залякаталі.

Тымчасам кот, угледзіўшы, што пад дрэвам нікога няма, зьлез з дрэва ды пашлі яны з ліскай да хаты.

З гэтага часу ліска нікога не баялася, бо думала, што мае вельмі дужага гаспадара, калі вялікія зьвяры ад яго паразьбягаліся.

## Чалавек і козы.

Жыў на сьвеце адзін бедны чалавек. Ня меў ён сабе прытулку. І пашоў ён у сьвет.

Ішоў, ішоў, зайшоў у густы лес. Доўга блудзіў ён па лесе. Змарыўся, згаладаўся, а тут есьці няма чаго.

Нярэшце вышаў ён на палянку. Палянка вялікая, а кругом—лес. Трава на палянцы зялёная, густая. Нікога нідзе ня відаць.

Пашоў той чалавек па палянцы. Напаткаў ён хатку, ды такую цікавую, што яшчэ ніколі гэткай ня бачыў. Уся хата была пабудована з бліноў, печ—з сыру, а комін—з масла.

Ня доўга думаючы, давай ён дзёрці сьцены, печ, комін. Дзярэ ды есьць, аж нос у дугу гнецца.

Ажно чуе—гул пашоў, топат, лопат, шум... Спужаўся чалавек.

— Дзе мне дзецца?—думае сабе.—На двор выскачыць—боязна...

Угледзіў ён падпечак ды шмыгнуў туды. Сядзіць, глядзіць. А гэта бегла стада козаў—вялікае-вялікае. Прыбеглі козы, ды як пабачылі, што нехта падзёр іх хатку, дужа жаласна забляялі.

Посьле кінуліся шукаць злодзея. Бегалі сюды й туды—нікога нідзе не знайшлі. Нічога ня зробіш: сталі папраўляць хатку. Напяклі бліноў, набілі масла, адтапілі творагу, пазамазывалі комін, печку, пазаляплялі сьцены.

Надыйшла ноч. Палягалі спаць. Настала раніца, пашлі на пасту, але пакінулі адну казу, каб яна сьцерагла хатку.

Ляжыць каза, вокам ня зьмігне—сьцеражэ. А ўжо гэтаму чалавеку й есьці захацелася, ды баіцца вылезьці з падпечку. Стаў ён на казу сон напушчаць. Глядзіць на яе ды прыгаварвае:

— Сьпі, вочка! Сьпі, вочка! Сьпі, вочка!

Адно вочка ў казы заснула. Тагды ён зноў кажа:

— Сьпі, другое! Сьпі, другое!

І другое вочка заснула. Тагды ён вылез з падпечку, наабдзіраў бліноў, накалупаў сыру й масла. Улез пад печ ды есьць сабе там памаленьку.

Прышлі козы з пасты—бачаць: сьпіць іх вартаўнік, бліны са сьцен пабдзіраны, печ і комін пакалупаны.

Хацелі яны біць бедную казу. Стала яна прасіцца, маліцца:

— Што я вінавата? Я старалася, як магла, глядзела, пільнавала. Але надта сталі мае вочы плюшчыцца, й я заснула.

Кінуліся шукаць вінаватага. Шукалі, шукалі; але нікога не знайшлі.

Сабраліся козы ў кружок, сталі радзіцца, як збыць такую бяду. Радзіліся, радзіліся ды й надумалі паставіць вартаўнікам такую казу, ў каторай тры вокі.

Нашлі такую казу з трымя вачамі. Сказалі ёй вартаваць хату, а самі пашлі на пасту.

Наш чалавек нічога гэтага ня ведаў. Бачыць—ляжыць каза.

— Ну,—думае чалавек:—зноў навяду на яе сон, а сам наемся.

Стаў ён прытка на яе глядзець ды прыгаварваць:

— Сьпі, вочка! Сьпі, вочка! Сьпі, другое! Сьпі, другое!

Заснула ў казы адно й другое вочка. Вылез той чалавек з падпечку, хацеў ужо абдзіраць сьцены ды печ. Ажно тут каза ўбачыла яго трэйцім вокам. Яна забляяла дзікім голасам.

Козы пачулі, прыбеглі ды кінуліся на таго чалавека.

Стаў ён іх прасіць-маліць:

— Козачкі даражэнькія, дазвольце мне жыць у вас. Буду вам век служыць.

Згодзіліся козы. Пакінулі яго за пастуха ў сябе. Ен іх пасьвіў, даіў, рабіў масла, сыры ..

З тае пары сталі козы чалавеку служыць.

## Вясельле шчыгліка.

Шчыглік невялічкі грамаду зьбірае.
Сам ня хоча адзін жыць,—жаніціся мае.
Узяў сабе пціцу, бараву сініцу,—
Красную, ясную вераб'я сястрыцу.
Паслаў арла, паслаў арла, усё птаства зьбіраці.
А варол папаў гусі, давай мардаваці.
Два сьнігіры, два сьнігіры шпака спаймалі,
А вароны за той час каравай згібалі.
Два каплуны, два каплуны солад малацілі;
Курапатка із цяцерай да мліна насілі.
Бацян меле, бацян меле, а крук засыпае;
Верабейчык, добры хлопчык, муку абірае.
Перапёлка, перапёлка, хату замятае.
Сава сядзіць на покуці, скоса паглядае.
Сядзіць дзяргач на парозе, сядзіць на парозе,
Пугач, пугач упіўшыся, ляжыць на марозе.
А сарочкі, як прыданкі, скачуць каля лаўкі:
Бедна наша галованька,—ня маем прыганкі!
А чаечка з кулічком на вясельлі грае,
А кулік чайку узяў за чубайку.
Чайка кліча: «Згінь ты, куліча!»
А зязюля вазьніца, харошая пціца,
Залатыя крылы мае, так гучна лятае.
А чмель мёду дадае і госьці прымае.

Падала В. Л-к.

# Як дзед з бабай боб садзіу.

(*Народная байка*).

Дзядуля Януля,
Бабуля Ганула
Увесь сьвет задзівілі—
Бабок пасадзілі,
Не на шнурочку,—
Пад зэдлем у гаршчочку.
Боб рос-рос,
Аж зэдлік трос.
Дрыжэла хаціна,
Як травіна.
Боб рос-рос,
Прабіў наскрозь,
Бы востры кол,
Тапчан і стол.
Боб рос-рос,
Вяршынай трос,
Праз столь прайшоў,
Да даху дайшоў.
Раптам—трах!
Прабіў і дах.
Грукат—стукат,
Шуры—буры:
Боб расьце,
У верх ідзе.
Зямля дрыжыць,
Аж пыл стаіць.
Зьвяры і людзі,
Што тут будзе?
На ўсе староны
Боб зялёны:
Над зямлёю,
Над вадою,
Над гарами,
Над марамі,
Над лугамі,
Над лясами.
Расьце бяз конца,
Затуляе сонца.
Боб рос-рос
Аж да нябёс.
Пусьціў ён цьвет
На ўвесь сьвет.
Пусьціў струкі
На ўсе бакі.
Кожны струк—з хату,
Кожны боб—з лапату.
І вось як раз,
У добры час,
У летні дзянёчак
Высьпеў бабочак.
Дзядуля Януля,
Бабуля Ганула
Як бы ў раі
Ад такога ўраджаю:
Можна сытна жыць,
Не гараваць, ня тужыць,
Увесь сьвет карміць
І Бога хваліць.
Дзед рады,
Баба рада.
Бяруцца ў бокі
Ды ў скокі.
Давай сьпяваць,
Бабочак жаць.
Жалі дзень, жалі два, жалі тры
Ад зары да зары.
Працавалі ў ахвоту
Да крывавага поту,
Цяжка стагналі,
Мазалёў нагналі
І рады не далі:
Ад працы ляглі.
Бабовы пень вялік,
Да такого жніва дзед ня прывык,
Бабулька тым болей,—
Вось горкая доля!

Бо сілы старэнькія,
Не маладзенькія—слабенькія.
Тут каб з вёскі народ
Ды на ўвесь год,
І то было-б мала—
Наттз боб удалы!
„Мусіць трэба
Пайсьці на неба
Прасіць надмогу
У самога Бога.
Няхай анёлы
Па Божай волі
Шчыра папрацуюць,
Ня гультуюць“—
Так кажа дзед.
А баба ўсьлед
Хваліць мужа
За розум дужы.
«Лезь, мой каточак,
Вось у мяшочак»—
Кажа дзядуля Януля
Да бабулі Ганулі.
Пасадзіў дзед бабу ў мяшок,
Губамі моцна згроб,
Зубамі мех трымае,
Рукамі махае
Ды ў верх палязае,
Бо лазіць трэба
Аж да неба.
У дзеда спрыту многа,
Ен хутка йдзець да Бога.
Забраўся за хмары
Ды глядзіць на нябесныя папары.
Боб і ня гнецца
І не трасецца;
Проста люба:
Лезеш, як па дубу.
А баба жвава,
Вельмі цікава,
Сама ня знае
У дзеда з меха пытае:
«Ці высока? Ці далёка?
Ці зараз будзем? Ці не заблудзем?».
А дзед маўчыць:
Ня можа гаварыць,
Бо мех дзяржыць
Ен зубамі,
А ня рукамі.

А баба жвава,
Занатта цікава,
Няма адбою,
Няма супакою,
Усё пустамеліць,
Языком меліць:
«Ці ўжо перамог?
Кажы, дзе Бог?
Ці ты здурнеў?
Чаму ты анямеў?
Што за ліха!
Чаму ты ціхі?
Ці ў рот вады набраў?
Чаму зубы сьцяў?
Ці гнеўны можа?
А Божа, Божа!
Здаецца, дзеда даглядаю,
Кармлю, чым маю:
І блінамі, праснакамі,
Аладкі й салам засквару
І маслам зажару.
Усё ў дастатку,
І люлька ў парадку,
Залатана сьвітка;
Як табе ня брыдка?
І пояс ткапы,
Як у нашага пана.
А ўсё мая праца.
Ох, ты цаца!
Не шкадуеш жонкі,
Шкадуеш гамонкі.
Я ў мяшку, як у магіле;
Ой, Божачка мілы!
Саколік, дзядок,
Каток, галубок,
Ты рот разьвяжы,
Хоць слова скажы.
Скажы! скажы!»
«Г-м-м»—дзед кажа,
Але рта не развяжа,
Бо губа занята
І зубы заняты:
Мех трымае.
А з меха баба яго лае.
Ня толькі лае,
Ды нават кусае:
«Ты сякі, ты такі!»
І рвець яго за бакі.

«Па!»—крыкнуў дзядуля,
Ня кончыў Януля
Сказаць «чакай»,
Ажна ай-ай-ай:
Грукат і стукат,
Гром і садом.—
З бабай мех,
Як той гарэх,
У ніз ляціць,
А дзед крычыць:
«Пастой! пастой!
Ой-ой-ой! Ой-ой-ой!
Вось звар'яцела,
Як птушка паляцела!»
А баба ўпала аж на зямлю
І вывіхнула сабе нагу.
«Што тут рабіць,
Ды што тут рабіць?»
І дзед у ніз ляціць.
«Вось, ці міла, ці ня міла,
Кашу еш, як наварыла!
Сьцеражысь!
Скачу ў ніз!»
Трэск і стук:
Дзед аб сук
Разбіў глуз,—
Астаўся гуз.
Лоб ацьвярдзеў,
Бок акруглеў,
Барада скалмацілася,
Рука спартачылася.
Ня есьць, ня п'ець,
З ложку не ўстаець:
Хворы ляжыць
Ды на бабу крычыць.
Злуецца, трасецца:
Яму здаецца
Канец сьвету
На старыя леты.
«А ўсё бабская цікавасьць,
Язычлівасьць і жвавасьць
Ва ўсім вінаваты!
Зьлітуйся, нябёсны Тата!
Няма цярпеньня,
Няма зьмірэньня
У маёй жонкі.
Гамонка й гамонка,
Кажы ды кажы,
Вось і ляжы!
Не дае выйсьці ў людзі,
Божанька, што будзе».
Дзед бурчыць, гурчыць,
Гудзіць, шуміць.
А тым часам штось зашумела:
Пчала паляцела.
Торк і торк,
Порк і порк.
А боб—хлоп! гоп!
Тыц! кульгіц!
І—паў ніц...
Певень па ім прайшоў
І нагой размалоў
Ад слаўнага бабочку
Не асталося й сьлядочку,
Не асталося ні гугу.
Далі пан, не маню!

С. П.

# Вечарынка у пані жабы.

(*Казка*).

Уздумала раз пані жаба ўладзіць у сябе вялікую вечарынку. Ды й час на гэта быў вельмі ўдалы. Безупынны дождж цурком ліў. Балота было ўсюды паўнютка, а жабы гэта натта любяць.

Запрасіла пані жаба сьвяршчыкаў і скакунчыкаў да сябе на параду й загадала ім паклікаць гасьцей, прыказаўшы строга, каб абыйсьці ўсіх суседзяў і прасіць іх у госьці, зграбна кланяючыся.

— Ці й гэтых малых зялёных жабак, што па дрэўцах скачуць, так сама прасіць трэба?—запытаўся сьвяршчок.

— А як-жа,—кажа гаспадыня:—яны-ж у нас найлепшыя скакуны, развесяляць пана ıся ўсю кампанію.

Пані жаба, доўга не чакаўшы, склікала да сябе сваіх суседак і сваячак жабак на дапамогу. Пачалі яны ўсе лапкамі моцна ўтаптываць зямлю ў канаве, каб госьцям лягчэй было гуляць.

Доўга думала жаба аб тым, скуль узяць музыкаў на такую важную гульню, ажна ўспомніла сьвяршчка. Гэта-ж слаўны й вядомы на ўсю ваколіцу музыка. Пад яго лявоніху й стрыкі ў скокі пускаюцца.

Пад вечар, калі ўжо ўсё было гатова, пачалі з усіх бакоў зьбірацца грамады жабаў. Яшчэ сонейка не пасьпела за хмаркі схавацца, як уся кампанія ўжо была ў канаве.

Пані гаспадыня, падскаківаючы й прысядаючы на заднія лапкі, прыймала гасьцей у сваёй хаце.

— Ква ква!—вітала гасьцей гаспадыня.

— Муа-муа!—адказывалі яны.

— Як здароўе вашых дзетак?—пытаецца гаспадыня.

— Дзякаваць Богу, жывенькі, здаровенькі. Аддала іх у навуку да суседзяў у сажалку й даўненька ўжо вестачкі ад іх ня маю. Думаю ў хуткім часе сама наведацца да іх.

Пачалася агульная гутарка-размова, падняўся такі шум, такі гармідар, ажна гудзела навакола.

Распытываліся госьці адны ў адных аб здароўі, апавядалі розныя навіны й плёткі, як гэта заўсёды бывае на вечарынках.

Ажна тут, ні з таго ні з сяго, адна маладая жабка запыталася:

— Ці ня чулі вы, сястрычкі, чаго колечы аб бацяне?

Як бы гром з яснага неба зваліўся і ціха зрабілася ў канаве.

Ды й дзе гэта чуваць? У такі вясёлы й прыемны час успамінаць нейкае пудзіла.

Доўга ўсе госьці маўчалі. Ажно першая адазвалася старая рапуха:

— Усё ж такі, даражэнькія, трэба нешта прыдумаць, каб гэты даўганогі валакіта выпадкова нас тут не намацаў. Ой, кепска тады было-б нашым голованькам, ой, кепска.

— Дык што-ж тут рабіць?— запыталася гаспадыня.

Думалі, думалі, церабілі патыліцы ўсе жабы й да нічога дадумацца не маглі. Нарэшце старая рачуха параіла:

— Нельга ў шапку спаць нашай кампаніі, трэба варту разставіць усюды. Толькі хто-ж згодзіцца кінуць гульні, каб пільнаваць канаву?

Доўга шукалі, выбіралі, малілі, прасілі, пакуль знайшліся дзьве разумныя, адважныя й маладыя жабкі, каторыя ўзяліся за гэту работу.

— Толькі пільным вокам цікуйце за гэтым злодзеем!—казала старая рапуха.

— Крэ-крэ! Будзьце зусім спакойны!—горда адказалі жабкі.

І зноў ажыла канава й загудзелі госьці на разныя лады. Завязаліся новыя гутаркі. Новыя пераліваньні з пустога ды ў парожняе.

Госьці зусім забыліся аб гэтай прыкрай гісторыі й толькі пры вячары ўціхалі—рыліся троху.

А вячэра-ж, вячэра была важная, багатая! На першую страву былі мухі ды салата з мурашак. Пасьля былі печаныя смаўжы з начынкаю. Гэту страву натта ўсе смакавалі, і госьці хвалілі гаспадыню за спрыт і кемнасьць.

Але самыя смачнейшыя стравы пакінулі на закуску, на самы канец. Чаго-чаго там ня было: і разныя матылькі, і цьмы, і камары, і рабачкі. Нібы цукеркі, пернічкі й тарты ўсё гэта жабы ахвотна глыталі ды лапкі аблізывалі.

У кілішках, зробленых з лісьцяў, слугі разносілі розныя віны й трункі: была й дажджавая вада, і вада з крыніцы, і расіца, і вадзіца з лужыцы, і жыжыца з рудаўкі. Ажно колеры пераліваліся ў кілішках і вачом глядзець люба было.

Пілі-пілі, елі-елі. Яшчэ раз і яшчэ разок. Кожны выбіраў сабе яду й пітва пад смак, пад густ. Грэх казаць, недастатку там ня было. Некаторыя моршчыліся ад моцнай гарэліцы, хмялелі, аднак яшчэ пробавалі, і ўсім было мора па калены.

Зараз пасьля вячэры пачаліся гульні і скокі. Сьвяршчок граў на ўсе застаўкі—і лявоніху, і бычка, і польку, і кадрыль. А жабкі скакалі, а жабкі танцавалі: хто вышэй, хто лягчэй, хто спрытней—і ў прысядкі, і бокам, і скокам, ажно галовы кружыліся, ажно ў вачох мігацела.

Пякней за ўсіх танцавалі зялёныя жабкі, што па дрэўцах скачуць. Гэта былі такія зухаватыя, такія майстры да танцаў, што з імі ніхто й раўняцца ня пробаваў. Нават скакунчык, гэты заядлы танцор і гуляка, і то сядзеў ціха, апусьціўшы вушы.

Калі ўжо ўсе досыць нагуляліся-наскакаліся, гаспадыня запрапанавала:

— А мо засьпяваем трохі?

А жабам толькі падавай.

— Брэкеке, брэкеке! -засьпявалі з усіх куткоў.

Моарке, моарке, моарке!—падцягнулі другія.

На жабінай мове гэта значыць:

«Дзякуй табе гаспадыня,

Што нас добра угасьціла,

Што нас сытна накарміла».

У той час, калі ў канаве было так весела й шумна, ажно рэхі каціліся з усіх бакоў, адзін ягамасьць у доўгіх чырвоных ботах, у белай сьвітцы з чорным поясам вяртаўся якраз па тэй дарозе з паляваньня. Быў гэта паважны пан бацян. Пачуўшы гэткі гармідар у канаве, ён адразу сьцяміў, што там робіцца. Падыйшоў ціханька на сваіх доўгіх нагах пад самую канаву, прытаіўся, як той кот, што на мышы палюе, і давай прыслухоўвацца.

Думаеш, пане ягамосьце, што табе гэтыя хітрыкі ўдадуцца?

Ой, не ўдадуцца.

Зялёная варта, ўгледзіўшы шэльмяца—непрыяцеля, шмыгнула, як маланка спаліць, у канаву й папярэдзіла аб гэтым усіх таварышак.

Прыдыбаўшы ў канаву, бацян не знайшоў там ніводнай душы.

Госьці разляцеліся на ўсе бакі, а сама гаспадыня ўскочыла ў маленькі пакойчык у сьцяне сваей хаты. І ніякі даўганогі бацян ня мог яе там знайсьці.

Гэдак скончылася слаўная вечарынка ў пані жабы.

# Валодзя Варанецкі.

(*Абразок з жыцьця сьляпых дзяцей*).

I.

Добра жылося хлопчыку Валодзю ў спакойны час на роднай Валыні, сярод поўнага дастатку і ўсіх радасьцяў жыцьця.

Выйдзе, бывала, з роднай хаты пагуляць у раздольнае поле, якое адбівае ад яркага сонейка ў розныя колеры. Вось і рэчка срэбная блішчыць, а там гай зелянее, а далей хаткі відаць, а яшчэ далей блакітнае неба зьліваецца з зямлёю. Усюды так весела, добра, ажно вочы разьбягаюцца па вольных абшарынах, над якімі лётаюць жывыя птушкі і, здаецца, радуюцца: песьні сьпяваюць толькі дзеля таго, што пазіраюць ўніз на вясёлага хлопчыка.

Але так, як птушцы аднэй нудна без сваей кампаніі, так сама нудна аднаму й Валодзю—цягне яго да такой вясёлай грамады, які й ён сам і вось сустрэнецца Валодзя з сваімі сябрамі-прыяцелямі—і з Стэцькам, і з Грыцькам, з Кузьмікам, з Сымонкам і з другімі хлопчыкамі-равесьнікамі.

I чаго толькі яны не вытваралі ўлетку: і бегалі на выперадкі, і скакалі праз канавы, і хадзілі па грыбы ў бліжэйшы гай, і бегалі ў горад паглядзець, што на кірмашы робіцца (Валодзя жыў недалёка ад гораду Ковеля). А то пабягуць на станцыю Лыгункі, дзе прыходзяць цягнікі і з Кіева, і з Бярэсьця. Натта любіў Валодзя людзкі тлум, рух, шум і гармідэр. Гэтыя звычайныя абразы жыцьця проста варажылі хлопчыка сваімі фарбамі, колерамі пад зьяньнем вясёлага залацістага сонейка. Усё ён хацеў бачыць сваімі вачыма, ўсё з пачатку да канца. Цікавасьць яго мяжы ня знала.

Цікавіла яго так сама тое, што знаходзіцца ў вялікіх складох, пры якіх заўсёды ходзяць вартаўнікі—жаўнеры са стрэльбамі, і пры якіх стаяць гарматы.

Як гэта паглядзець?

Натта цікава!

Вось вышла-б штука, каб можна было-б адтуль дастаць некалькі патронаў ды ўзарваць іх. кінуўшы ў вогнішча... Вось бухнула-б, як са стрэльбы ўсё роўна. Гэта можна такім чынам удзівіць усю ваколіцу, ўвесь сьвет. А кажуць, што ёсьць там у складох і гранаты, якія кідаюць рукамі, і яны пры гэтым разрываюцца, як бомбы, ударыўшыся аб зямлю. Гэта—яшчэ цікавей! Ж-ж-ж!—і грымоты коцяцца, аж рэхі раздаюцца, і полымя пыхае, аж глянуць люба, і дым... цэлыя воблакі...

Гэткія думкі былі ў галаве ў Валодзі і ўсіх яго равесьнікаў. Але здарылася так, што той скарб, які трудна было дастаць, сам даўся ў рукі.

Пачалася вайна з немцамі—і патроны ад стрэльбаў, і гранаты зрабіліся самай звычайнай штукай.

Вайна закінула сям'ю Валодзі аж у далёкі ад Валыні Менск. Але вясёлы хлопчык і на чужыне не сумаваў. Завёў ён сабе хутка знаёмства сярод беларускіх хлопцаў з прадмесьцяў гораду й чуўся, як у сваёй хаце.

Аднаго разу вясёлая грамада здабыла гдесьці патронаў і некалькі гранатаў. У той час шчасьлівейшых за іх на сьвеце ня было. Выйшлі яны за горад, адкуль добра была відаць і высокая вежа новага касьцёла з левага боку і высокія разнаколерныя гмахі, дамы, і зялёны гушчар гарадзкога сада з правага боку, і розныя лугі, дамы, і ўзгоркі, і цёмны лес адразу перад сабой. Усё як на далоні—хоць малюй. Разлажыўшы вогнішча, яны пачалі кідаць туды „разрыўныя кулі“ з алавянай паперы з порахам у сярэдзіне, якія лоўка разрываліся ў вагні. Малыя «майстры» працавалі, не пакладаўшы рук. Дай, Бог, вялікім гэткую ахвоту.

— А цікава даведацца, што знаходзіцца ў сярэдзіне гранаты: ці такі самы порах, ці не?

З гэтымі словамі Валодзя пачаў круціць у руках адну з гранат, якую дастаў ад хлапцоў. А вочы ў яго так і блішчэлі ад вялікай зацікаўленнасьці.

— Ты пацягні за вярхушку ручкі,—параіў яму прыяцель Колька,—потым пастукай аб зямлю, тагды порах і высыпецца, зусім простая рэч!

Валодзя так і зрабіў, не сумняваючыся ў вялікім знаўстве свайго шчырага друга, і раптам нешта тарганула яго за пальцы з нястрыманай сілай, і страшны гук аглушыў яго.

Гэта ўзарвалася граната.

## II.

Апомніўся Валодзя толькі праз некалькі дзён і сьпярша ня мог зразумець, што з ім: рукі ў яго страшэнна балелі, а вочы былі завязаны. Толькі потым зразумеў ён, што граната папсавала яму рукі, па два пальцы на кожнай руцэ, і высмаліла вочы.

Цяжка зрабілася на душы Валодзі, калі ён пераканаўся ў гэтым. Пачалася для хлапца вечная цёмная ноч, такая цёмная, што ніякага слабога блеску, ні кропелькі сьвету ня відаць, нічагуткі ня відаць, ні на валасочак, толькі мацаць можна сябе й вакол сябе... Ці ж так усё жыцьцё будзе ў мяне адна доўгая-доўгая, цёмная-цёмная ноч?

Захацелася яму плакаць, але нешта сьціснулася ў яго грудзёх і яму плакаць не дало. Валодзя ніколі ня плакаў—ён гэта лічыў за сорам.

Нудна цягнулася жыцьцё у шпіталю. Вакол чуліся енкі й стогны хворых, шэпты сясьцёр і дактароў. Балелі пакалечаныя рукі і выцекшыя вочы. Троху цешыла яго толькі тое, што ў шпіталі ўсе яго шкадавалі—і хворыя, і дактары, і сёстры міласэрдзія. Ен пазнаваў кожнага паасобку, па голасу, па паходцы, па руху, па малейшаму шораху. Ен у гэтым хутка налаўчыўся. З кожным днём слух у яго рабіўся ўсё лепшым, крапчэў і патроху замяняў яму вочы. Слух і пачуцьцё падсказывалі яму, калі ноч і калі дзень. Ен нават ведаў, калі хмурны дзень і калі пагодны, сонечны, бо сонечныя праменьні тады грэлі яго. І вось, адчуваючы на сваім целе цяплынь сонейка, ён успамінаў родную зямельку пад гарачым летнім сонейкам, калі з сваімі адналеткамі, радасны й шчасьлівы, гуляў па вольных абшарынах сваёй ваколіцы й купаўся ў моры сьвету, так купаўся, ажно галава кружылася і хмялела...

Здаецца, вось перад сабою бачыў ён жывыя абразы роднай краіны. Колькі багатых барваў, колькі пекных колераў—і выказаць трудна... і тое, што мінула й ніколі ня вернецца, было яму так люба, так дорага, ажно сэрца раз-

рывалася ад болю... Успомніў ён усе драбніцы з абразоў мінуўшчыны: пераліўы колераў неба ў розныя поры году, поле з залацістым збожжам, зялёны луг, рэчку, цені пад вербай над крыніцай, вясёлае чырвонае вогнішча, месяц, зоркі, сівыя хмаркі, грыбкоў у лесе, каровак, птушак. Усё гэта бачыў ён жывымі ў сваіх думках...

О, колькі бы даў ён, каб хоць яшчэ раз, адзін-адзінюткі разок, зірнуць на ўсё гэта ўласнымі вачыма! Здаецца, паўжыцьця аддаў-бы, ўсё жыцьцё... Пабачыць толькі раз. Але ўсё прапала—вечны, вечны цень, густы цень агарнуў яго й затуліў ад яго сьвет..

Тут ужо Валодзя ня вытрываў, як ні крапіўся, а заплакаў, так моцна плакаў, што ніхто ўспакоіць яго ня мог, доўга плакаў ён.

Матка не магла часта прыходзіць да хлопчыка, бо павінна была працаваць, каб пражыць. Прайшло досыць многа часу, пакуль Валодзю выпісалі са шпіталю, і матка ўзяла яго да хаты. Тут дык яшчэ мацней пачуў Валодзя сваё няшчасьце. Яму ўжо было 13 гадоў і каб не калецтва, ён мог бы памагаць чым-колечы сваей матцы. А цяпер ён рад быў-бы хоць за сабою даглядаць. Праўда, ён скора прывык да хатняй абстаноўкі, ведаў, гдзе што ляжыць, сам апранаўся, прыводзіў да парадку свой ложак, выходзіў сам на падворак, ведаў як там размяшчаецца стайня, вазоўня, але ўсёж такі патрабаваў помачы ад другіх людзей і аб гульнях дзіцячых ужо зусім ня думаў, нібы ўжо быў старым чалавекам.

Цяжка было яму прывыкаць да таго, што ўжо болей ня можа бачыць бо жага сьвету ў розных прыгожых фарбах і ня ведае напэўна, што знаходзіцца далей за тым, дакуль ён можа выцягнуць свае рукі, і тое, што ён застанецца неадукаваным і недапасованым да жыцьця ўласнаю працаю. Хаця часам вукрадкам таемная думка песьціла яго надзеяй аб тым, што вось ў адну любую раніцу ён прачнецца, расплюшчыць вочы, і ноч мінецца—ён пабачыць сьвет. Якім чынам гэта збудзецца, ён сам ня ведаў. Мо' гэта будзе цуд ці што колечы іншае, аб гэтым ён ня думаў. Апавядалі жа людзі аб нейкіх цудах, як сьляпыя робяцца відушчымі. Сам дзед, нябошчык, калісьці апавядаў яму аб тым, як прывялі да сьвятога старца сьляпога чалавека, і сьвяты дакнуўся да яго воч рукамі, шапянуў малітву, і сьляпы зараз-жа зірнуў на сьвет Божы відушчымі вачыма.

Часта Валодзя думаў аб гэтай байцы свайго дзеда, так моцна думаў, што па начох сьніў аб гэтым. Сьнілася яму часта, нібы яго, Валодзю, павялі да гэтага самага сьвятога праз лясы, праз лугі, праз густэлі, і той яго вылячыў. І вочы ў Валодзі зноў выздаравелі, і ён бачыў ўсё, ўсё на сьвеце так добра бачыў, ажно сам дзівіўся—яшчэ лепей, чым раней. Шчасьліў бываў тады ў ва сьне Валодзя. але сны асталіся снамі, і на яве яму было вельмі цяжка. Цяжка было й яго матцы бачыць няшчасьце свайго сына, ня мець магчымасьці памагчы яму. Так яны разам, сын і матка, гаравалі-бедавалі без прастанку.

Але аднаго разу даведаліся яны, што ў Менску ёсьць школа для сьляпых. Калі так, дык гэтая бяда—толькі паўбяды. Значыцца, і Валодзя можа вучыцца і выйсьці ў людзі—жыць працаю сваіх рук і ня быць цяжарам для другіх людзей. І Валодзя пастанавіў паступіць у школу.

III

Выявілася, што паступіць у школу—справа не цяжкая. І вось Валодзю прынялі ў школу. З першых жа дзён свайго жыцьця ў школе Валодзя зразумеў, што яна яму дасьць усё, чаго сям'я даць ня можа—і таварыства падобных яму хлопцаў, і навуку, якая зробіць яго адукаваным, разумным чалавекам, і магчымасць пражыць, па сканчэньні школы, сваёю працаю, бо са школы ён выйдзе добрым рамесьнікам.

Валодзя шчыра ўзяўся за працу. Цікавіла яго тое, як ён будзе вучыцца, як ён будзе чытаць і пісаць, калі ён нічога ня бачыць. Але справа гэта аказалася потым не такою цяжкай, як ён думаў спачатку. Новыя яго таварышы сустрэлі яго прыхільна й памаглі яму.

Не пасьпеў яшчэ настаўнік школы распачаць з ім навуку, як таварышы вытлумачылі яму, што чытаюць і пішуць яны не такімі літарамі, як відучыя. Іх літары пласкія, а нашыя, казалі яны, выпуклыя, гэта значыць такія, што іх можна абмацаць пальцамі. А складываюцца яны з невялікіх кропачак; адны літары складаюцца з 2 кропачак, другія з 3, трэція—з 4, рэшта—з 5. Літара «а» абазначаецца аднэй кропачкай, літара „б"—дзьвюма кропачкамі, з якіх адна стаіць вышэй, а другая пад ёю; літара „ц"—так сама дзьвюма кропачкамі, якія стаяць побач адна з другой; літара „г"—квадрацікам з 4 кропачак; літара «л»—трыма кропачкамі, якія стаяць старчавым кіёчкам, і гэтак далей.

Настаўнік дадаў да гэтага тлумачэньня, што гэтыя літары прыдумаў француз Люі Брайль ужо сто гадоў таму назад і што з шмат прыдуманых азбукаў для сьляпых гэтая азбука ёсьць самая лёгкая й найлепшая. Ен разказаў, як Люі Брайль, яшчэ быўшы трохгадовых хлопчыкам, гуляючы, выпадкова выкалаў сабе вока нажом, як ад гэтага хворага вока запаленьне перакінулася на другое вока, і ён зусім асьлеп. Потым ён вучыўся ў Парыжскім Інстытуце для сьляпых, вельмі добра вучыўся, шмат думаў над тым, як зрабіць лягчэйшым чытаньне, пісаньне для сьляпых. Гэты самы Люі Брайль прыдумаў сваю азбуку й свае ноты, зрабіўся добрым настаўнікам у тым самым Інстытуце, дзе сам вучыўся й многа працаваў над выхаваньнем і адукацыяй сьляпых дзяцей. Апрача гэтага ён добра йграў на фортэпіано й аргане

У хуткім часе Валодзя выучыў азбуку й пачаў чытаць розныя кніжкі з школьнай бібліятэкі—казкі, апавяданьні, байкі й вершы. Пры гэтым выказываецца ў яго вельмі добрая памяць, лепшая, чымся ў відушчых.

Добра пайшла справа й з пісаньнем. У гэтым выпадку літары так сама павінны быць выпуклымі, і дзеля таго іх ня пішуць, а выціскаюць грыфэлем на асобай дошцы. Дошка мае дзьве створкі, ў яе закладаюць паперу, на якой трэба пісаць. Верхняя дошка мае прарэзаныя клетачкі, а ніжняя—ямачкі. Клетачкі ўсе роўныя, каб літары выходзілі правільныя. Пішуць на дошцы ня зьлева направа, а з права налева. Але як выймаюць паперу з дошкі й перавяртаюць яе на другі бок, дык і выходзіць, што літары йдуць, як звычайна, зьлева направа. Пісаныя літары выходзяць такой самай вялічыні, як і ў друкаваных брайлеўскіх кніжках, але толькі хутчэй могуць сьцёрціся, бо пішуць не на такой трывалай паперы, на якой друкуюцца кніжкі для сьляпых.

Пасьля навукі чытаньня й пісаньня, другія навукі пайшлі ў Валодзі Варанецкага зусім гладка. Навука аб зьвярох і птушках (зоолёгія) лёгка давалася яму, бо ён, як яшчэ быў відушчым, шмат іх бачыў і добра ведаў нашых зьвы-

чайных хатніх, палявых і ляеных птушак і зьвяроў. Цяпер-жа, узяўшы ў рукі чучала якой колечы птушкі, ён адразу пазнае, што гэта за птушка. Астаецца толькі выслухаць уважна тлумачэньне настаўніка й прачытаць па падручніку ўсялякія драбніцы аб ёй, і ён ужо добра ведае сваю лекцыю.

Па гэографіі Валодзя скора навучыўся рабіць пляны паасобных пакояў школы, наклеіваючы на паперу шнурочкі з воску, якія замяняюць сабою рысы алоўкам, ці атрамэнтам. Потым навучыўся ён рабіць плян усей школы, добра разьбіраецца на выпуклым пляне Менску. Валодзя ведае, што далей ён будзе вучыцца на выпуклых гэографічных мапах гэографіі розных зямель усяго сьвету, ў тым ліку і краязнаўства нашай роднай Беларусі.

Апрача навучэньня ў школе, Валодзя працуе ўлетку на гародзе пры школе й уладжывае з сваімі таварышамі розныя гульні, так сама ходзіць у тэатр паслухаць музыку й сьпевы.

З асаблівым закаханьнем Валодзя Варанецкі займаецца музыкай. Цяжка прыходзіцца яму, бо мае пакалечаныя рукі, але, ня гледзячы на гэта, ўжо троху грае на піаніне.

Маючы досыць прыемны голас, Валодзя прыймае ўдзел у сьпевах маленькага хору школы. З ахвотаю пяе ён беларускія песьні, бо яны напамінаюць яму тыя родныя для яго украінскія песьні, якія ён чуў з маленства на роднай Валыні.

Музыка й песьні—гэта найвялікшая радасьць і ўцеха яго жыцьця. У чароўных згуках купаецца яго душа й забывае ён аб той вечнай, безпрасьветнай і жудаснай ночы, якая абхапіла яго на ўсё жыцьцё.

Ен упіваецца гэтымі згукамі, як крынічнай вадой, упіваецца ёю ў некалькі стопняў болей, чымся відушчыя людзі, праймаецца мэлёдыяй усей сваёй чулай істотай, бо толькі гэтае хараство яму даступна...

Прыгожыя згукі малююць яму такія надзвычайныя вобразы, якія недаступны відушчым людзям...

## IV

Вось і ўся, пакуль што, гісторыя Валодзі Варанецкага. Цяжкі лёс тых людзей, якія або радзіліся, або сталі цёмнымі, якія ня бачуць усяго хараства багатаколернага нашага сьвету. Яны вельмі няшчасьлівыя людзі. Але ўсё-ж такі і для іх не зачынена брама да навукі й асьветы, і яны могуць быць карыснымі грамадзянамі для свайго роднага краю.

Так і Валодзя Варанецкі. Ен будзе шчыра вучыцца, будзе добра працаваць у школьных майстэрнях і выйдзе са школы таланным чалавекам, які дапаможа і сам сабе і сваёй старой матцы. Гэта будзе тым сьветлым цудам, тымі снамі-марамі аб сьвету, якія не даюць супакою яго думкам. Гэтакім чынам, праз навуку, праз шчырае жаданьне працаваць, праз добрыя адносіны да яго відушчых людзей ён пабачыць сьвет.

Няхай жа шчасьце й удача ў жыцьці не пакідаюць яго!

Матар'ял падаў Настаўнік Менскай школы
Сьляпых Лявон Більдзюкевіч.

Менск, 23/I—1921 г.

# ПАСТУШКІ.

## Дзіцячая п'еса ў 2 актах.

АСОБЫ:

Вацік, Ядзя — панскія дзеці.

Лявонка, Грышка — дваровыя пастушкі 13—14 г.

Марыська, Юзік — дзеці дваровага каваля.

Янка — дваровы хлопчык.

*Хор за сцэнаю.*

### АКТ І.

*Панскі двор. Пекна прыбраны ганак. Каля ганку панская калыска і шмат розных цацак.*

### ЗЬЯВА І.

Ядзя. *(Калышацца ў калысцы з лялькаю і пяе дзіцячую песьню).* Чамуж ты вочак не закрываешь? Я цябе й калышу й песяньку табе сьпяваю, а ты ўсё ня сьпіш. Што? Ня хочаш? Калі ты мяне, паненкі ня будзеш слухацца, дык скажу нашаму аканому. Ен цябе моцна, моцна будзе біць... Тагды-жа плакаць будзеш, а я цябе не нашкадую. Чула, як учора аканом біў нашу пакаёўку Юльку, а яна плакала, плакала... Гэтак і ты будзешь плакаць... Ен сярдзіты, ўсіх б'е, хто паноў ня слухаецца... Або аддам цябе пастушкам... А яны чорныя, страшныя, возьмуць цябе ў лес, ваўкам аддадуць! Ну, дык сьпі-ж... А я песяньку прасьпяваю (пяе дзіцячую песьню).

### ЗЬЯВА ІІ.

Вацік *(выходзіць з хаты)*. Вось, ты тут, а я цябе шукаю ў пакоях.

Ядзя. Нашто я табе патрэбна?

**В а ц і к.** Бач, Ядзя, сёньня пекная пагода, дык трэба запрэгчы Юзіка й Янку ды й паехаць у лес... Трэба наглядзець, каб вясковыя дзеці ягад ня зьбіралі ў нашым лесе...

Я д з я. А як-жа мы пакоі пакінем? Тата з мамаю яшчэ ў гасьцёх... Хто-ж павінен за ўсім наглядаць... Сёньня мы нікуды ня паедзем!..

В а ц і к. Ага!.. Ну, значыцца заўтра паедзем...

Я д з я. Да ты, Вацік, павінен вартаваць сад. А то бачышь, як пастушкі пыганяюць паіць быдла, дык заўсёды нашыя яблычкі рвуць... Ідзі ў татаў пакой, сядзь і пазірай у вакно, пакуль яны зноў у лес не пагоняць.

В а ц і к. Ну, добра, пайду... А як пабачу, што будуць рваць яблыкі, паклічам аканома, ён ім задасьць такога перцу... (пайшоў у пакой).

Я д з я. Паганцы гэтакія, рвуць нашыя яблыкі... Чуешь? (да лялькі). Крадуць у паноў яблыкі... Дасьць ім аканом, як мы яму скажам... А ты ня сьпіш? Бедненькая!.. Ну, я цябе панясу ў пакоі, на мякенькія падушачкі... Ты там хутка засьнеш... Пойдзем, мая маленькая, мая прыгожая, мая харошая... Дам табе булачкі з малачком, сьпяю песяньку, ты й засьнеш... Пойдзем-жа, мая кветачка... Пойдзем... (пайшла ў пакой).

## З Ь Я В А III.

Л я в о н. (*Крадучыся выбегае*) Грышка! Грышка! Ідзі сюды! Хутчэй!

Г р ы ш к а. (*Крадучыся выходзіць*). Чаго? Што?

Л я в о н. Паны старыя паехалі ў госьці, Вацік і Ядзя ў пакоях, давай ускочым у сад, нарвём яблыкаў, ды тагды карбў пагонім... Вось будзем есьці!

Г р ы ш к а. Не, брат, баюся! Мой бацька шмат разоў лупцаваў мяне за такія штукі, баюся!

Л я в о н к а. Ды ня бойся!

Г р ы ш к а. Яшчэ хто ўбачыць ды скажа аканому.... Дык і той, брат, не пашкадуючы так пагладзіць, што й сядзець ня будзе на чым... Хіба паклічам Юзіка кавалёвага, ён палезе й нарве. Ен на гэткія штукі майстар добры!.. Вось бачыш?! Ен ля кузьні... Юзік! Юзік! Бяжы сюды!

Л я в о н. Юзік-гузік! Хутчэй! Хутчэй! Каб толькі ня позна было кароў гнаць, а то зноў аканом вячэраць ня дасьць.

Г р ы ш к а. Яблыкаў пад'ядзём—вячэраць ня трэба будзе.

## З Ь Я В А IV.

Ю з і к. (*Адна нага ў лапці, другая ў боце*). Навошта мяне клікалі?

Г р ы ш к а. Лявон кажа, што ты надта палохлівы, што пабаісься нарваць панскіх яблыкаў..

Л я в о н. Ведама пабаіцца!

Г р ы ш к а. А вось-жа не! Ускоч у сад, Юзік, вырві некалькі штучак з чырвонымі бачкамі.

Л я в о н. Баіцца! Ха-ха-ха!

Ю з і к. А вось-жа не баюся! Захачу й нарву!

Г р ы ш к а. Вось маладзец! Ускоч у сад, а мы павартуем, каб панскія дзеці ня ўбачылі.

Л я в о н. Ды баіцца!..

Ю з і к. Ага... яшчэ зловіць хто, дый шапку зьдзярэ!

Грышка. Ты-ж бяз шапкі, што ён у цябе зьдзярэ?

Юзік. А я... яй! Дже-ж я згубіў?.. Пабягу шукаць!..

Грышка. Стой! стой! Пасьля знойдзешь!

Юзік. А яшчэ вушы аддзярэ!..

Лявон. Ты-ж бяз вушэй!

Юзік. Што?

Лявон. Не, не... ёсьць вушы, толькі ўскоч у сад.

Юзік. А вы самі...

Грышка. Ты спрытнейшы! Ускоч—ягад прынясём з лесу.

Лявон. І дудку спусьцілі, йграць будзем!..

Юзік. Дудку?! Ну, добра, толькі каб вечарам дудку прынесьлі, ды даўгую, даўгую, як...

Лявон. Як твой нос!..

Юзік. Ну, вось і не пайду, самі йдзеце.

Грышка. Ґінь, Лявон! Скакані, Юзік: ты добры хлапец!..

Юзік. Ну, вартуйце, а я абягу кругом, з таго боку плот паломаны, я ўжо тудэю лазіў... А пасьля, як нарву, вы бяжэце за мною, я вам аддам...

Грышка. Толькі, Юзік, шмат ня рві.

Лявон. Лепш насабірай, што пападалі.

Юзік. Я ведаю якіх,—кругленькіх з чырвонамі бачкамі... Толькі, як хто будзе йсьці, сьвішчэце—я ўцяку.

Грышка. Добра! Сьвісьнем!..

Лявон. Бяжы хутчэй!

## ЗЬЯВА V.

Грышка. Куды я палажу?

Лявон. Я ў запазаху!

Грышка. А я ў торбу.

Марыська. *(За сцэнаю)*. Пачакай, пачакай, Юзік! Скажу я тату!.. Ну, і дасьць жа ён табе! Адлупцуе! *(выходзячы)*. Ужо падвучылі, дурныя пастухі! Скажу, скажу тату! Далібог, скажу!

## ЗЬЯВА VI.

Грышка. Марыська-Крыська! Чаго ты галёкаешь, каб усе чулі. Панскіх яблыкаў табе шкода?

Марыся. *(увайшла)*. А чаму-ж ты сам, Грышка-кішка, ня лезеш, а Юзіка нашага падвучыў. Скажу й твайму тату! Вось будзе!

Грышка. Баюся я цябе, як жаба мухі! Ну, бяжы, скажы, бяжы!..

Лявон. Ці мы яго вучылі? Сам захацеў яблыкаў, дык і палез!

Марыся. Сам!.. сам!.. Ведаю я! Пастухі дурныя, красьці вучаць!..

Лявон. Можа разумнейшыя за цябе... Ён ня пайшоў красьці, а толькі ўзяць.

Грышка. Не чапай яе, а то заплача!

Марыся. Ты хутчэй заплачаш!

Грышка. Ціха! Ідуць! Вой! Вой! Сьвішчы, Лявон!

Лявон. *(Сьвішча)*. Ты сьвішчы: я спужаўся, не засьвішчу!

Грышка. *(Сьвішча)* У мяне ня выходзіць!

Абудва. (да Мар.) Марыська, ты засьвішчы!.. засьвішчы!

Марыся. Вось бацька вечарам, калі возьме пугу ды й засьвішча вам ободвым, толькі нагамі задрыгаеце!..

Грышка. (*крычыць*) Юзік, уцякай!

Лявон. Хутчэй у лес бяжы!

## ЗЬЯВА VII.

Вацік. Мы скажам тату: бачылі, як Юзік яблыкі зьбірау!.. (убач. Ляв. і Гр.). І вы тут, пастухі?

Грышка. Тут!..

Вацік. Мо й вы хацелі ў наш сад лезьці?

Лявонка. Хацелі!

Вацік. Скажам аканому, ён вам покажа!..

Грышка. Не баімся мы аканома!

Ядзя. Ого! Можа й паноў і нас не баіцёся?

Грышка. І паноў і вас не баімся!..

Ядзя. Чуешь, Вацік, што яны кажуць?

Вацік. Вось, як вернецца тата, ды прыкажа даць розак, як учора хурманшчыку за тое, што брычкі не памыў, дык будуць баяцца!

Лявон. Што? Нам розак дасьць?!

Грышка. А назад мы яму не патрапім даць?..

Ядзя. Вацік, Вацік! Чуешь, што гэтыя чорныя пастухі нам кажуць?

Грышка. Тое, што белыя чуюць!..

Вацік. На што вы ў наш сад лазілі?

Лявон. Як ён ваш? Што вы яго садзілі?

Ядзя. А можа ваш?

Грышка. Але наш, бо я вясною вазіў гной пад дрэвы, а Лявонаў бацька дрэвы садзіў. А мой бацька гальлё сухое абразаў!

Вацік. Дык калі ваш, чаму-ж вы крадзіцё яблыкі, а сьмела ня йдзіцё й ня рвіцё іх?

Грышка. Таму, што вы нашага ўласнага не пазваляеце нам сьмела ўзяць!

Ядзя. Вось як?!

Грышка. Вось так!

Лявон. Мы не крадзема, бо гэта ня чужое, мы толькі хаваючыся бяром!..

Вацік. Дык можа й каровы вашы, бо вы іх пасіцё?

Грышка. Але, нашы!

Ядзя. (*Сьмяецца*). Дурныя вы пастухі! Чаму-ж мы малачко ядзём, а вы толькі бегаеце за каровамі, пасучы іх?... Вы ўсе чорныя, як галавешкі, як наш гаршчок, што Агата есьці варыць!

Грышка. Каб і вы ўвесь дзень папякліся на сонцы, як мы, дык горш бы за гаршчок пачарнелі!

Лявон. Як не накормім кароў, дык здохнеце без малака!..

Ядзя. Мужыкі, пастухі! Мы з вамі гаварыць ня хочам!...

Лявон. і ня трэба!...

Грышка. Мы з вамі дзесяць разоў ня хочам! Паны якія знайшліся!

Вацік. Вон ідзіце!

Грышка. А вось-жа ня пойдзем!

Ядзя. Ідзіце ад нашага ганку, хто вам пазволіў тут стаяць у лапцёх? Пастухі чорныя!

Грышка. Хоць і пастухі, хоць і чорныя, а вось-жа ня пойдзем!

Вацік. Ну, дык стойце, як сабакі каля ганку!

Лявон. Гэта-ж вы сабакі! Гыр-гыр-гыр!

Грышка. (*Цішэй*). Аканом ідзе, ўцякайма!

Лявон. Няужо-ж?! Але, йдзе! Хутчэй у лес кароў пагонім!

Вацік. Як вырасту, вось пакажу, як паноў зьневажаць! Пачакайце!

Ядзя. Ідзіце з двора, чэрці!

Грышка і Ян. Гэта-ж вы чэрці, калі вам памерці, у суботу рана, выкапана яма... (*дражняцца і ўцякаюць*).

## ЗЬЯВА VIII.

Ядзя. Пастухі гэтыя! Прыйшлі пад панскі ганак й яшчэ адважыліся так гаварыць! Хадзі, Марыська, да нас: ты не такая, як яны, ты добрая!

Марыся. Гэта яны нашага Юзіка падвучылі, каб лез у сад!..

Вацік. Нічога! Аканом увечары ім пакажа, як у панскі сад лезьці. Як чапаць панскае дабро!

Ядзя. Яшчэ дурні паважыліся казаць, што іх сад і што каб ні яны пасьвілі кароў, дык мы малака-б ня елі! (*паўза*). Але праўда, Вацік, хто-б нашы каровы пасьвіў, каб ня Грышка ды Лявонка!

Вацік. Хто? Мала хлапцоў у двары?

Ядзя. А каб і іх ня было, хто пасьвіў бы?

Вацік. Ну, дык... стары Кузьма, ці з вёскі каго-небудзь узялі! (*пайшоў у пакоі*).

Ядзя. Але, праўда, на вёсках шмат людзей... Яны да нас на работу прыходзяць... Ты была, Марыська, на вёсцы?

Марыся. Была!

Ядзя. А якія там людзі, белыя, як мы ці чорныя, як нашы пастухі й парабкі?

Марыся. Такія ўсе, як пастухі й парабкі!

Ядзя. А чаму яны такія? чаму яны чорныя?

Марыся. Я ня ведаю!..

Ядзя. А чаму ты чорная? Вось ты добрая, не такая, як тыя пастушкі, а гэтакая чорная, як і яны, чаму?

Марыся. Ня ведаю. Тата мой чорны і мама чорная, дык і я чорная!

Ядзя. Ага! Вось чаму! А ў нас усе белыя, харошыя, чыстыя!.. А ў вас усе замараныя!.. Твой тата заўсёгды чорны...

Марыся. Бо мой тата каваль, заўсёгды працуе, вугальле бярэ ў рукі, дык і чорны, каб і твой тата працаваў у кузьні ды браўся за вугальле, так сама зарабіўся-б у сажу!..

Ядзя. Што ты, Марыська! Мой тата вугальле будзе браць у рукі? Ен-жа рукавічкі замарае!..

Марыся. Не, я так сабе кажу!..

## ЗЬЯВА IX.

Юзік. (*Поўна за пазухай яблык і ў руках. Ядучы яблыка*). Уцякалі і яблыкаў ня ўзялі!.. І дудкі ня зробяць, іграць ня буду!..

Марыся. У кулак зайграеш, як тата вечарам адлупцуе!..

Юзік. Што?! (*хавае яблыкі за пазуху*).

Марыся. Будзе й дзьвесьця, ня толькі сто!

Ядзя. Вось які ты, Юзік! Мы табе й боцік далі, а ты ў нас яблыкі крадзеш!

Юзік. Я? Далібог жа ня краў! Я хацеў толькі ападкаў назьбіраць!.. Яны ўсё роўна ў траве гніюць!..

Ядзя. І ападкаў ня можна, няхай сабе гніюць!.. Не тваё дзела!

Юзік. А што бот далі, дык на чорта ён мне, ды яшчэ адзін!..

Марыся. На што так гаворыш?!

Юзік. Вось я скіну. (*скідае*) Лепш я ў лапцёх пахаджу, альбо босы!..

Марыся. Дасьць тата за бот!

Юзік. Гэта-ж ня наш, Марыська, а іх, няхай сабе бяруць, калі ім шкода! Шкадаваць ня буду!

Ядзя. Ня скідай, ня трэба!..

Юзік. (*кідае на ганак*) На! Хоць на нос адзень свой недатопак!

Ядзя. Вацік, Вацік! (*да Юзіка*). Нашто паскудны бот на ганак кідаеш?

Юзік. Хоць паскудны, але ён панскі, яму ў пакоях і мейсца!

## ЗЬЯВА X.

Вацік. Хто бот шпурнуў?

Юзік. Я! Насі ты: на маю нагу ня прыйшоўся!

Вацік. Дурны, мужык! Бяры паскудны бот, ганак замараеш! (*кідае назад*).

Юзік. Я паскудных не нашу!.. Толькі паны такія носяць, бо й самі паскудныя!

Ядзя. Як ты паважыўся, дурны?

Юзік. Вы самі дурныя, як гэты бот! (*кідае назад*). Пойдзем, Марыська! (*пайшлі*).

Ядзя і Вацік. Мужыкі дурныя! Пастухі чорныя!

(*З а с л о н а*).

(Канец будзе).

*М. Кудзелька.*